УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
Ж86

**Жуковіч, В.**

Ж86 Няўжо?.. : кніга паэзіі / Васіль Жуковіч. — Мінск : Кнігазбор, 2011. — 152 с.

ISBN 978-985-6976-78-3.

Новыя цыклы вершаў, прывезеныя паэтам з замежжа (з Нямеччыны і з Парыжа, з Летувы і з Украіны), склалі першы раздзел кнігі. Але ў цэнтры яго ўвагі — сям'я, з яе клопатамі і праблемамі, і родная Беларусь, яе мінулае і новы дзень, яе апантаныя сыны і дочкі. Напэўна, уразіць чытача і раздзел з шаснаццаці вершаў «Ніне Мацяш — у іншасвет».

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

ISBN 978-985-6976-78-3

# Замежжа маё паэтычнае

## СВЯТЛО НЯМЕЧЧЫНЫ

*Карлу Пфаншцілю*



Райскі край
 працвітае пад сонцам на свеце:
Там нідзе не валяецца смецце,

Не адвесці вачэй ад вясновага поля —
Поле роўнае ўсё, нібы столік,

Там у норме прыгожыя ўчынкі і рэчы,
Незнаёмага
 людзі вітаюць пры стрэчы —

Гэта ёсць зямля Х э с с э н.

Там у крамах
 не пахне ніякай нястачай:

Мора вопраткі,
гожай і таннай,
дзіцячай.

Там у парках — разумныя дзецям забавы.
У дарослых — імпэт,
месца першае — справам.

Процьма там і праблем,
грэшным людзям знаёмых.
Падзяліць найскладаней маёмасць…

Гэта ёсць зямля Х э с с э н.

*28–30.04.2010*

✧✧✧

Я хадзіў па чароўным садзе,
А быў красавік у разгары,
І якраз прачыналіся кветкі.
О, яны усміхаліся сонцу,
Кожная — запаветным цветам!
Іх было шмат, мілых ды сціплых,
Што трымаліся маці-зямлі.
Я ступаў асцярожліва,
Каб, крый Бог, не пакрыўдзіць якую.
Там цвілі экзатычныя дрэвы й кусты:
Ад раскошных японскіх вішняў
Да ружовых, белых магнолій.
Я ў тым садзе быў госцем,

Вольна водарам дыхаў
Пасля доўгай стамляльнай дарогі.
Калі ўбачыў садоўніка з сынам
За напружанай цяжкаю працай,
Раптам сорамна стала:
Я адчуў сябе трутнем знянацку
Сярод пчолаў, што мёд здабываюць.

*18.04.2010*



Колькі дзён мне паказваў садоўнік
Сёе-тое з багацця слайдаў —
Сваёй роднай зямлі краявіды,
Поры года ва ўсёй красе фарбаў,
Узрушальныя эпізоды,
Не, імгненні з жыцця прыроды:
Краска, грыб, матылёк сінякрылы,
Мятлік у фантастычным інеі…

Я цяпер зразумеў, што садоўнік
Нездарма назваў сына Florian.

*18–19.04.2010*

## Фульда

Гід распавёў ласкава мне,
Чым Фульда знакамітая,
Наколькі тутака ў цане
Індустрыя развітая.
Я чуў, пра ўсё як распавёў
Ён з гонарам у голасе…
А сэрцам слухаў салаўёў
Я ў індустрыйным горадзе.

*20.04.2010*



Яблыня ў бела-ружовым цвеце.
Пакалыхвае ласкавы вецер
Вецце.
Я прайшоў-праехаў многа свету,
Ды нідзе не бачыў столькі цвету.
Цвету.
А яго так шмат, што гнуцца голкі.
Тут шчыруюць чмелікі і пчолкі.
Пчолкі.
У іх звоне столькі мілай моцы!
Як шкада: таго не чуе Моцарт!..
Моцарт.

*28.04.2010*



У садоўніка дзень нарадзінаў —
Шостага траўня,
Калі ўсё яшчэ процьма работы;
Так зямельку вясна абудзіла,
Што паўсюдна паспець немагчыма,
Памагаць неадкладна трэба
Кветкам, кусцікам, дрэвам…
Цяжка яму, калі ім, жывым, дрэнна.
Не прыпомніць садоўнік старанны,
Калі ён святкаваў сваё свята.
Зрэшты, хто калі бачыў,
Каб святкавала пчала?

*27.04.2010*



У краме моднае вопраткі
Сімпатычная немачка,
З якой я разлічваўся
За прыгожыя рэчы,
Так нязмушана весела
Гаварыла па-руску
Сваё «До свидания»,
Што ў мяне словы-ластаўкі
Мігам выраслі:
«Saqen Sie bitte: “Да пабачэння”».
І яна паўтарыла за мной

Чыста-чысценька: «Да пабачэння».
Ды з такою прыгожай усмешкай,
Што я ледзь не прамовіў:
«Ich will dich küssen!»
Ах, няхай бы прамовіў!..
Што б яна адказала?

*19.04.2010*



Садоўнік сардэчны
Прамовіў аднойчы:
«Добраму сэрцу
Дрэнна заўсёды».

Калі процьма працы
Ў садоўніка ў садзе,
Гасцям ён паказваў
Франкфурт-на-Майне.

Ён быў там, вядома,
Кіроўцам і гідам —
Стараўся гасцям даць
Паболей уцехі.

Вярталіся з песняй
Шчаслівыя госці.
Садоўніка ж дома
Чакаў хворы хлопчык…

І мне падаліся
Крылатымі словы:
«Добраму сэрцу
Дрэнна заўсёды».

*22–23.04.2010*



Дзякуй табе, садоўнік,
За гасціннасць тваю,
За ўтульны пакой і ціхі
І за бярозку ў акне,
Модніцу, у завушніцах,
За прыгажосць краявідаў —
Блізкіх вандровак дарунак…
А словы твае, а ўсмешкі
З іх сонечнаю цеплынёю
Я павязу з сабою
Цераз дзяржаўныя межы —
У родны май беларускі.

*21.04.2010*

# СУСВЕТНАЯ ЗНАКАМІТАСЦЬ

## Барыс Кіт

Ведаю Кіта навукі
Акіянскай глыбіні.
А жыве з ім дух свабоды
Светлазорнай вышыні.

Праз крывавае стагоддзе
Як ні вёў суровы лёс,
Да радзімай Беларусі
Чалавек любоў пранёс.

Уцякаў ад зла людскога,
Сам ратуючы людзей;
Мае чыстае сумленне:
Шкоды не чыніў нідзе.

Бог яго узнагародзіў —
Шлях адкрыў, і волю даў,
І гадоў яму, гадочкаў
Больш як сто падараваў.

Не здзіўлюся, калі ўбачу
Веснавым ласкавым днём:
Кіт сусветнае навукі
Пачуваецца арлом.

*Красавік 2010*

# Жывое ўражанне

Сто першы стрэў гадок
Цудоўны наш Зямляк,
Прыветлівы дзядок,
Рухавы, як юнак.
  На міг пакінуў гмах,
  Ад радасці цвіце,
  Спусціўся, нібы птах, —
  Сваіх спаткаць гасцей.
Прыязны, быццам брат, —
Гарыць вачэй святло…
Уразіць вас наўрад
Ягонае жытло.
  Тут, у зямных вірах,
  Хвалюе што каго,
  Мяне — ягоны шлях
  І кнігі пра яго.
Я з радасцю чытаў
Пра космас адкрыцця,
Якому ён аддаў
Зеніт свайго жыцця.
  Радзімы нашай сын,
  У сэрцы з ёй жыве.
  Калі ён і адзін,
  То з ім — вялікі свет.
Успомніць мае што,
Бо не забрала цьма…

Яму гадоў за сто
Далося нездарма.

*22–23.04.2010*

## Ён павярнуў свой лёс

У Франкфурце-на-Майне
Прафесар Кіт жыве,
Вучоны знаны, дбайны
І добры чалавек.
Стаіць на трох кітох ён —
Сумленні, розуме, любві,
Перад людзьмі ні трохі
Душою не крывіў.
Як доля ўратавала
Ад смерці у вайну,
Ад сталінскай навалы
Свой лёс ён павярнуў.
…Лятуць гады, не гусі,
Высокай чарадой:
Так мала ў Беларусі,
Так шмат па-за мяжой!
Ёсць у навукі донар
Сусветнай — наш Зямляк,
Нам, беларусам, — гонар,
А справе — клічны знак.

*19–21.04.2010*

# МЫ БАЧЫЛІ ПАРЫЖСКУЮ ВЯСНУ

## Вандроўны настрой*

Ну да якой пары ж
Не бачыць нам Парыжа?
Паехалі ў Парыж:
Ад нас цяпер ён бліжай.

Празрыстая мяжа.
Ноч у дарозе пройдзе —
І расцвіце душа:
Спажыву духу знойдзе.

Лічы, падаць рукой
Ад даўніх мрой да мэты:
Адкрыем мы з табой
Куточак
новы
свету.

* Гэты верш створаны аўтарам у Нямеччыне.

## Марыў не марна

Сабе самому я цвярдзіў:
Хто пра Парыж хоць бы не марыў,
Пра дзіва з самых пекных дзіў,
Жыццё пражыў, напэўна, марна;

А хто душой не адпачыў
Каля сабораў, Богу ўгодных,
Сябе у творцы залічыў
Не надта праведна і годна…

І вось ён, бацюхна Парыж, —
Са мной, сустрэў мяне як родны.
І нібыта сказаў: «Твары ж,
З табой я абсалютна згодны!»

## Геаграфія Парыжа

У нас дзень, ноч і дзень
У горадзе над Сенай.
Экскурсія ідзе
Ў цудоўны час вясенні.
Духоўнае «меню»
У гіда Аляксея;
Манмартра глыбіню,
Прастору Елісейскіх,
Чароўны Манпарнас —
Паціху адкрываем.

Сучаснасць кліча нас
І даўніна сівая.

## Радэнаўскі герой

Бальзак, натхнёна што тварыў,
Паўстаў у ціхім скверыку.
Ён добра Францыю адкрыў —
Не адкрываў Амерыку…

Нам блізкі велічны Бальзак,
Радэн адліў халат яму:
Яскрава свету паказаў
Вялікага
па-хатняму.

Бальзак загадкава глядзіць
На ўсіх, усмешку тоячы,
У бронзе стойка так стаіць:
Ён і ствараў жа стоячы.

## З гісторыі Парыжа

О, Парыж! У стагоддзях ты зведаў
Безліч розных трывог і бедаў.
Быў арэнай баёў шматлікіх,
Рэвалюцый і войнаў вялікіх.

Выступалі у сварках галоўных
І гармата, і штык, і меч.
І не раз бачыў ты, як галовы
Качанамі падалі з плеч…

Слота, сцюжы прайшлі ды віхуры.
Іншы час, іншы свет цяпер.
Вабіш музыкай архітэктуры,
Шмат паломнікаў у цябе.

Места памяці гістарычнай,
Столькі помнікаў бачыць нязвычна.
Ты сыноў сваіх, духам вялікіх,
Як святых, ушаноўваеш лікі.

## Жыццё прывольнае

На Сену сонную глядзіш
Дамоў вачыма-вокнамі
І вежамі высокімі,
Святлом расквечаным гарыш,
Вячэрні і начны Парыж.

Заўсёды людна: шмат гасцей
Тут поруч з парыжанамі.
Кавярнямі жаданымі
Вясёлых радуеш людзей —
Гамонка шчырая ідзе.

Гаворыш выглядам усім:
Жыццё тваё прывольнае,
Здаецца, запаволена
І разняволена зусім,
І задаволены ты ім.

## Версаль

Нас дужа захапляюць у Версалі
Не спальні каралевы й караля.
Палаца залі нам на міг заззялі,
Красой каб вечна сэрцы наталяць.

Стагоддзі працвітаўшае барока
Стагоддзі люд працягвае ўзрушаць…
Надзеленая чуйным слыхам, зрокам,
Удумлівей становіцца душа.

## Чаму?..

«Дзяржава — гэта я», —
Казаў Людовік Чатырнаццаты.
Пасля яго прайшлі стагоддзі.
Свет быццам падабрэў і памудрэў.
Чаму ж сучасныя дыктатары,
Бяздарныя ды хітрыя,
Жывуць па прынцыпе Людовіка?..

# Думкі ля помніка Напалеону I

Раннія поспехі
Клічуць на подзвігі…
Ранняя слава?
Брава!
…Дзе хіжы сокал?
Дужа высока.
Бачыць далёка
Сокала вока…
Заклік да дзеяння…
Скуль жа падзенне?
Ах, і ў вялікіх
Часам — пралікі,
Геній, здараецца,
Богам караецца.

# У Луўры

Каля «Джаконды» й «Афрадыты»
Ідуць натоўпы чарадой…
Спаткання дзень мной не забыты
З тваёй красою маладой,
Той дзень, калі я быў гатовы
Стаць мастаком, каб вобраз твой
Намаляваць: не мог я слову
Тваё даверыць хараство.

## Месячнаю ночкаю

Мы бачылі парыжскую вясну,
Мы дыхалі парыжскаю вясною.
І месячнаю ночкай не да сну
Было — мы цалаваліся з табою.

Дарэчы быў гатэль утульны нам;
Зноў мы ўлюбляліся, як маладыя.
Ты вінаватая а ці вясна,
Што забываў на важкія гады я.

Каштаны і магноліі цвілі,
На золку птушкі звонкія спявалі.
З табой мы бесклапотныя былі,
Бы на аблоках, ранак сустракалі.

## Поруч ты

Твой голас, твой позірк, усмешка
Ў працяглай вандроўцы —
са мной.
У стоме Парыжам суцешна
Адорваемся гаманой.

Так добра не знаць адзіноты
Ў далёкай старонцы чужой
І адпачываць без турботы
І целам, і ўсёю душой!

# Парыжу — на развітанне

О, Парыж, старажытны Парыж,
Ты, здаецца, зусім не стары ж!
Ты здзіўляеш мяне, Парыж,
Старажытны й сучасны.
Я гляджу з захапленнем
На захмарныя вежы твае
І на храмы, прасторныя, белыя,
І на тое, як лёгка свой цэнтр
Запаўняеш гасцямі, турыстамі,
Іх не менш чым сваіх жыхароў!
У цябе й эмігрантаў багата.
Я дзіўлюся, як лоўка ўладкоўваеш ты
Афрыканцаў на працу,
Бо дзяжураць яны ў прыбіральнях;
Некаторым турысты — знаходка:
Можна перапрадаць
Нешта з дробных і танных рэчаў…
Забяспечваеш вольнаю воляй
Ты сваіх грамадзян,
Хто б яны ні былі:
Мастакі, прастытуткі ці негры.
Кожны верціцца гэтак, як можа
Ці як лічыць патрэбным —
І ўсё мае, чаго заслужыў…

## Як два імгненні…

Два дні ў Парыжы, залатыя дні,
Пранесліся, нібыта два імгненні.
Жалеза, мармур там і камяні —
Мінуўшчыну — шануюць пакаленні.

Што набыла душа, таго не збыць,
Не сыдзе тое ў Лету лёгкай пенай.
Нам весняга замежжа не забыць,
Бо з намі водар горада над Сенай.

*Вясна 2010*

## Да помніка падобны

Пасля Парыжа
Я моцна ўражаны
Адным чалавекам ссівелым,
Які, седзячы каля дома на лаве штодня,
Нагадвае мне «Мысляра» Агюста Радэна.
Праўда, калі той падпёр галаву адною рукою,
То гэты сваю падпірае аберуч.
Ён доўга сядзіць у адной гэткай позе,
Нерухомы, як помнік.
Відаць, думы цяжкія
Заселі ў яго галаве;
Пэўна, страціў ён
Сваю спадарожніцу недзе ў сяле
І яго перавезлі дзеці ў горад.

А што ён селянін — відавочна,
Бо пінжак не скідае нават у спёку.
І сядзіць ён на нізкай лаве,
Блізка зусім да зямлі —
У адрозненне ад радэнаўскага «Мысляра».

*Травень–чэрвень 2010*

# ПАД НЕБАМ ЛЕТУВЫ

## Чурлёніс

Стварыў чалавек сусвет.
А ў сусвеце
Нішто не жыве без імкнення,
Імкнуцца спрадвечна
Крылы — да вышыні,
Думкі — да глыбіні,
Душы — да чысціні…

Стварыў чалавек сусвет.
А ў сусвеце
Нішто не маўчыць,
Цішыня пераходзіць у музыку,
Ціўкаюць ноты-ластаўкі,
Арфаю бор гучыць,
З нябёсамі вежы гамоняць.

Стварыў чалавек сусвет.
А ў сусвеце
Нельга пражыць без святла,
Сонца і зоры свецяць,
Мора і дзюны свецяць.
Ды найярчэй у сусвеце
Сэрца ўлюбёнае свеціць.

*Верасень 2010*

## Замежнае пасланне Глебу

Ці ведаеш ты,
Чаму я не з табою, мой родны?
Відаць, не сказалі табе
ні бабуля, ні мама —
Наіўныя: думаюць, не зразумееш,
Бо ад нарадзінаў табе
толькі месяц чацвёрты.
А я не з табою таму, што ў дарозе,
Вось еду ў Палангу, да самага мора.
І зараз гляджу, як дзіця,
На белыя горы аблокаў,
На такія якраз
Любіў я дзівіцца ў дзяцінстве.
Дыханне балтыйскага ветру
Ўтварае з аблокаў карціны
Ды іх пастаянна мяняе:
То Баба Яга
штось над ступай вядзьмарыць,
А то велізарныя танкі
паўзуць-напаўзаюць,
То коні кудысьці імчацца галопам,
То зубры стаяць, то мядзведзі…
І раптам — твае два сабакі,
Так, новыя цацкі,
Што тата нядаўна прывёз табе
з Вільні.

А вось яно, неба Палангі.
О, гэтае неба мяне нечакана
Страчае прыветна вясёлкай!
Магчыма, вясёлыя яркія дні
Я правяду каля мора?
Напэўна, і з цацкамі краму знайду…
Чакай мяне, ўнучак.

*31.08–2.09.2010*



*Антанасу Шымкусу*

Раяў шмат на зямлі,
Можа, больш чым пчаліных раёў.
Мне здалася й Паланга раем зямным.
Мора дадзена ёй з ласкі боскай,
І таму так жывецца прывольна,
Вечарамі музыкі мора ліецца,
Зіхаціць Млечным Шляхам святло.
Чысціня тут паветра амаль незямная.
О, Паланга, чаму я тут сумную чайку пачуў?
Мне здалося, яна рыдала…
Ці не ў вобразе чайкі ў нябёсы ўзляцела
Рэха пекла жабрачкі, якую сустрэў я
На халоднай зямлі ля касцёла?

*31.08.2010*

## Пачатак восені ў Палангe

Халодна-суровае, грознае мора
І хмурнае, з просінню, золкае неба,
І самы ласкавы на свеце пясочак,
Які абмываюць няспынныя хвалі;
Над морам не надта крыклівыя чайкі;
Курортнікі лавы спакойна займаюць
Пры спуску да мора ля горкі пясчанай —
Даводзіцца неяк хавацца ад ветру…
Да цэнтру бліжэй
гандляры і бармены шчыруюць.
Але ўсё часцей налятаюць дажджы
І ўносяць сваю арытмію
Ў рытмічнае досыць жыццё гарадка.
Вось вам і штрыхі да партрэта
Постлетняй Палангі.

*2.09.2010*

## Эрыка

Твой смех даспадобы мне, Эрыка.
У смеху адкрытая ўся ты,
Хоць, мабыць, жыццё — не Амерыка
Ў цябе, не суцэльнае свята.

Падобна ж, ты духам не падаеш,
Не ведаеш скрухі ніколі,

Людзей не засмучваеш — радуеш,
Шчаслівае вартая долі.

*4.09.2010*

## Я — сведка рамантычнага кахання

*Л. В. Мельнічук*

У верасні гуляў я на вяселлі
(Такіх Паланга звестак не дае)
Ў чароўнай Юлі і у Аляксея,
У жаніха цудоўнага яе.

Не абы-як спаткаў ён, не дзе-небудзь
Каханую — так міла ўшанаваў:
У неба ўзняў і там, на сёмым небе,
Руку і сэрца ёй прапанаваў;

Стаў на калена, джэнтльмен і рыцар,
Прад любай у паветраным шары —
Прызнанне ў цёплым позірку іскрыцца:
«На ўсё жыццё сябе мне падары!..»

Шлюб маладых на цвёрдай стаўся глебе:
Вянчаліся нязмушана ў царкве.
У адначассе на зямлі й на небе
Каханне гэта зорнае жыве.

*3.09.2010, Паланга*



Бяссонне.
Сем зорак — як дзіва начное
Ў шырока-высокім гатэльным акне.
Загадкай ці знакам сузор’е такое
Заззяла так чыста ў чужой старане?

Нябёсаў пытанне
Спасцігнуць мне трэба:
Што чэрпае, што спажывае душа?..
Празрыста і я запытаюся ў Неба:
Што з зорнага мне абяцае каўша?

На нашай зямліцы
так вольна, так пышна
Разросся палын і расцвіў, і таму
Прашу: не давай ты гаркоты мне лішняй,
Ах, слодычы лішняе сам не вазьму!

*4.09.2010, Паланга*

## Выпрабаванне

*Валярыне Куставай*

Калі я даведаўся, што ў замежжы
Наша юная творца ўпала
І паламала руку,
То расстроіўся і нават папракнуў
Яе анёла-ахоўніка:

Маўляў, дзе быў, куды глядзеў,
Чаму не адвёў бяду?
Калі ж даведаўся,
Што руку яна паламала правую,
То падумаў пра кару боскую:
«За што?..
Як будзе творца асадку трымаць?»
Ды Ўсявышнім яна ўзнагароджана:
Талент дадзены ёй дужа шчодры,
Да таго ж, як пчала, працавітая,
Дый вынаходлівая,
То павінна і выйсце знайсці.
Так прыйшоў да мяне супакой.

*4.09.2010, 25.02.2011*



*Светлай памяці*
*Таццяны Сапач*

Сустрэўся з табою ў Вільні.
У светлыя тыя хвіліны
Хваліў цябе, што вясёлая,
Падумаў: пашанцавала
Маленькай сямейцы тваёй.
Навошта я так падумаў?!
Сям'я твая страшна гаруе:
Дарога зімова-белая,
У катастрофе віноўная,

Сталася стужкаю чорнаю
На светлым партрэце тваім.

*Студзень 2011*

# ВОЛЬНАЛЮБІВАЯ УКРАІНА

## Галадамор

Кроў і цяпер ў жылах стыне
Ад нечуванага зла:
Кліка Крамля ва Ўкраіне
Жыццяў мільёны звяла!

Род хлебаробаў карчуе…
(Векам падаўся той год!)
Днюе ў бядзе і начуе,
З голаду пухне народ.

Лютая хеўра карае
Жытніцы гаспадароў.
Прагнулі вольнага краю —
Зведайце псоў-халуёў.

Тыя пілаты-фанаты
Хлеб — да зярнятка! — мятуць;
Людзі у часе праклятым
Дзетак (!) з вар'яцтва ядуць.

Ў муках мільёны канаюць,
Пекла зямное прайшлі,
Праўду на небе шукаюць,
Бо на зямлі не знайшлі…

Хай больш такога не будзе
На хлебадайнай зямлі…
Хай бы на ўсім свеце людзі
Ўшчэнт
тыранію
звялі!!!

*Кастрычнік – 10.11.2009*

## Запавятае геній

1

Шаўчэнка ў думках зноў паўстаў,
Любоўю, праўдай, верай моцны;
У рабстве быў — рабом не стаў,
Жыццё за свой народ аддаў
І выйшаў пераможцам.

2

Ён моцы духу прыдае
Не толькі словам векапомным,
Пачуцці ўзрушвае мае:
Гаротны, а такі нязломны!

Займеўшы волю, мог, бадай,
Ствараць каханай мадрыгалы
І маляваць сямейны рай,
Пра долю хваляваццa мала.

Спакойнай долечка была б
У здзейсненым вялікім цудзе:
Учорашні прыгонны-раб
Так слаўна выбіўся у людзі!..

А ён ствараў «Каўказ» і «Сон»
І асуджаў самадзяржаўе,
І «Запаветам» гнеўным ён
Біў царскі той рэжым іржавы.

І зведаў здзекі, суд, астрог
У адзіноце шматпакутнай.
Як дапусціць такое змог
Прысутны ўсюды Ўсемагутны?!

Ўсё ж да Ўсявышняга Тарас,
Відаць, маліцца ўдзячна рынуў
За волю тую, што якраз
Займела ўрэшце Украіна.

3

Вольналюбівы геній мужны
Належыць свету, як і сонца,
Не толькі Бацькаўшчыне служыць —
Спрыяе і маёй старонцы.

Бо цемра вісла і над намі,
Бяды і ў нас не бракавала,
І мы грымелі кайданамі
Пад той жа самаю навалай.

У рэчаіснасці суровай
Жыла й жыве любоў святая:
Шлях да дзяржавы вольнай, новай
І нам Кабзар запавятае.

*1994*

## Чытаю партрэт

Люблю чытаць партрэт я Украінкі,
Класічна строгі і таму прыгожы;
Чытаю вусны шчырыя, якія
Не зведаюць нідзе й ніколі стомы
Так палка прамаўляць да Украіны;
Чытаю вочы думныя, з журбінкай,
Чароўна-пранікнёныя такія
(Яны далёка, ой далёка бачаць,
Напэўна, любай Бацькаўшчыны долю);
Чало мыслярскае чытаю чуйна,
Увенчанае зграбнаю прычоскай, —
І думаю пра Маўку-гераіню,
Такую мрою зорную, святую…
Чытаць люблю партрэт сардэчнай Лэсі:
Душа праменіць з чыстага аблічча
І свеціць німб адвечнай БЕРАГІНІ.

*7–10.08.2010, Ковель–Берасце*



*Ігару Ліхавому*

Калі бачыў драму
Сапраўдных сыноў Украіны,
Прыходзіў у памяць
Вядомы сюжэт біблійны:
Хрыста прадавалі,
На смерць асудзілі,
Хрыста распіналі,
Да крыжа прыбілі
Яго ногі, рукі
(Мне сэрца праймалі
Збавіцеля мукі)…

У век цемрашалаў,
Рэжыму бязлітасна-злога
Мяне суцяшала
Ісуса Хрыста перамога…

*11–22.02.2010*

## Пятро Мах

Мне даспадобы Пятро́ Мах
(Прозвішча — крылаў узмах),
Ў літаратуры — не промах,
Слова ўкраінскага маг.

Як ні згінала нядоля,
Як ні ламала жыццё,
Духам не падаў ніколі —
Песні складаў з пачуццём.

Так і сяброў ён вітае —
Шчыра ўсім сэрцам сваім,
Сэрца вялікае мае,
Сонца братэрства ў ім.

Мой пабраціме, гарнуся
Я да цябе ўсёй душой
З мілай маёй Беларусі,
Светлай, табе не чужой.

## Іван Чарнецкі

У чалавека з прозвішчам Чарнецкі
На заглядзенне светлая душа,
І гэта натуральна на Валыні,
Дзе Лэся на нябёсы узышла,
Яскравай стала зоркаю высокай.

У чалавека з прозвішчам Чарнецкі
Казацкі дух і талент мастакоўскі,
Які шчыруе ў лірыцы і ў жартах,
Людзей збліжае й цэлыя народы.

У чалавека з прозвішчам Чарнецкі
І сэрца чалавечнае на рэдкасць,

Невыпадкова ў яго шмат сяброў
Не толькі на прасторнай Украіне.

У чалавека з прозвішчам Чарнецкі
І пранікнёны маладзецкі голас,
І чара поўная гасцям харошым,
Застольны тост
дасціпны, шчыры, свежы.

У чалавека з прозвішчам Чарнецкі
Збялелая дарэшты галава:
Шмат гора бачыў ён на Украіне,
Дый беларускага уведаў процьму гора.

*11.03.2011*



*Васілю Гэю*

У шчырым і шчодрым сяле, у Білыні,
У ветлым кутку знакамітай Валыні
З гасцямі быў я, там сардэчна віталі
Шматлікіх гасцей, там нас так частавалі!
Усё там было: і братэрская чарка,
Каўбаскі, з гарачаю бульбаю скварка,
Вяндліна, варэнікі ў свежай смятане,
Ды я пералік ужо доўжыць не стану.
Яшчэ пачастунак быў болей адметны,
Бо скарбаў датычыўся ён запаветных:
О, там, на Валыні на Лэсінай роднай,

Не страцілі людзі смак песні народнай —
Так хараша, звонка пявунні спявалі,
Аж слёзы на вочы ў мяне наплывалі!
Падумай, скажы, пабрацiме, чаму так
Усё, што жыве ў песні, — радасць і смутак —
Душу так глыбока хвалюе, праймае?
Таму што народ Украіны спявае,
Яго прага поўнай свабоды — жывая,
І ўсё, што для шчасця патрэбна, ён мае.

*15.08.2010*



*Ніне Горык*

У Лэсіным беленькім доме
Ў Калодзежным, краі крынічным,
Узнікла нязвыкла пытанне:
Ці ёсць душа ў скрыпкі
Ды ў фартэпіяна?
І тут паліліся мелодыі шчодра:
Ўрачыстая «Авэ Марыя»,
І «Чардаш» агністы,
І плаўны «Раманс»
(Кампазітар Пракоф'еў)…
Ліліся мелодыі быццам з нябёсаў,
О, так шчыравалі крылатыя рукі
Міхайлы-арла — скрыпача-віртуоза —
І піяністкі з імём Валянціна!

І ўпэўніўся я:
Душа ёсць і ў скрыпкі,
                          і ў фартэпіяна
У час, як зыходзіць з іх
Музыка боская.

*7–9.08.2010, Калодзежнае – Берасце*

# *Калі мы разам...*

## Маці

Хто адкрыў нам свет,
поўны хараства, таямніц? Мама!
Хто яшчэ ўмее так, як яна,
ціха тужыць ў адзіноце,
Чакаючы дзяцей з далёкіх краёў,
Радавацца дочкам і сынам,
Дзяліцца з імі ўсім нажытым,
Даравадь за няўвагу?..
І як бы ні пасталелі дзеці,
І як бы далёка ні адышлі ад родных мясцін,
Яна застаецца той жа матуляй —
Добрай, спагадлівай, строгай.

Маміна сэрца,
Маміны вочы,
Маміны вусны
Не носяць зла.
Мабыць, ад неба, мабыць, ад сонца,
Ад Маці Боскай
Мама ўзяла гэтак многа святла!

Ад Боскай Маці, ад святой Марыі
Ёсць, мабыць, нешта ў сутнасці матуль,
Інакш адкуль пачуцці іх святыя,
Надзея, вера і любоў адкуль?

З чым параўнаць самаахвярнасць маці,
Яе любоў з чым можна параўнаць,
Калі за шчасце роднага дзіцяці
Не знае шчасця большага яна?

Ёй пасылае Бог, дае Прырода
Высокі подзвіг: нарадзіць дзіця.
І гэта ёсць за ўсё узнагарода
Навек
зямной мадонне
ад жыцця.

Маці, на зямлі твой неўміручы подзвіг.
Свяціся імя тваё!

*2005*

# Сям'я

Маленькую крыўду
ўявілі вы драмай,
Трагічнай здалася няўдача свая,
Але вы вярнуліся зноўку да храма
З высокай і простаю назвай «сям'я».

Забудзьце няўдачы
і крыўды таксама,
Змяніце хутчэй,
калі ласка, настрой —
Чакае вас храм, цёплы,
радасны самы,
Святыня чакае,
не здрадзьце вы ёй!

Сямейныя святы,
адвечнае веча
Сабе не дазвольце
на вецер пусціць,
Бо ўсё зруйнаваць
гэтак лёгка за вечар,
Што так будавалася доўга ў жыцці.

*2000*

# Дар непараўнаны

Будні і святы, ночы і дні —
З любай-жаданай.
Хіба магчыма дар ацаніць
Непараўнаны?

Шмат пережыта розных пагроз
З першай жанчынай.
Дзякуй: ахоўваў, сонечны лёс,
Цяжкай часінай.

Толькі, о, лёсе, здрадзіць не смей
Ты нечакана.
Хай будзе шчасце нам як даўжэй
Наканавана.

## Калі мы разам…

Хай зразумеў я не адразу —
Адведаўшы бяды і гора, —
Што зрушыць можам нават горы,
Калі ў жыцці з табой мы разам.

Здалося: не было паразаў,
Ні слоты, ні цяжкой дарогі,
Адны ёсць толькі перамогі…
Бо па жыцці мы крочым разам.

Так ціха ў хаце, што, здаецца,
Пачуць магчыма нават мары…
Калі жывецца добра ў пары,
То й шчасце весела даецца.

# Не ў самоце ідуць мае дні

Дзеці і ўнукі, сёстры… Радні
Ёсць у мяне, дзякуй Богу, багата,
І не ў самоце ідуць мае дні,
Да галасоў мая звыклая хата.

Радасць сямейная дадзена мне,
След не губляецца ў свеце шырокім…
Можа, таму і на яве, і ў сне
Так спачуваю я ўсім адзінокім!

# Знянацку

Твае нясцерпна-жудасныя болі
Спакою ўдзень і ўночы не даюць
Табе і мне. І як трываць іх болей?
Настойліва яны трывогу б’юць.

Я ведаю, не любіш ты лячыцца,
Стараешся прагнаць міжвольны страх,
Штодня ты не стамляешся маліцца
І спадзявацца, што яшчэ не крах.

# Расстанне

Гадзіны невымоўнае трывогі
Змяніліся бязлітаснай журбой:
Звярнуўшыся да «Хуткай дапамогі»,
Знянацку мы рассталіся з табой.

…У хворымі заселенай палаце
Твой ложак ля сцяны і ля акна.
А за сцяной — жыцця-быцця багацце,
А за акном — у квецені вясна.

А там, раней, перад пачаткам мая, —
Багацце неацэннае дарог
З маёй душой твая душа ўспрымала,
Нішто нам не прадказвала трывог.

Няўжо-няўжо вясёлых дзён не вернеш?
Згарае свечкаю запас надзей.
Калі ў палёгку ты сама не верыш,
Дыягназ мой дакладны: ты ў бядзе.

# Рызыка

Няўжо да нас прыйшлі часы ліхія?
Чакае аперацыя цябе…
Але пракінула ты хірургію —
З унукам-немаўляткам ты цяпер.
Свае ласкава-мякенькія ручкі
На гэтым слаўным бабчыным вяку
Падкладваеш пад міленькага ўнучка,
А заадно й пад любую дачку.
Падобна, і не думаеш пра тое
У гэтым стане немачным сваім,
Што больш, чым рукі, сэрца залатое
Яшчэ спатрэбіцца для шчасця ім.

*P. S.*

Хай за тваё здароўечка баюся,
Хвалююся, але, між тым,
Уражаны, я моўчкі ганаруся:
Дзеля сям'і сябе забыла ты!

*Травень 2010*

## Не толькі і не столькі пра шахматы…

Сын мой, як адной сям’ёй жылі,
Шахматы ў пашане ў нас былі.

Хатнія азартныя майстры,
Мы з табой гамбітаў процьму зналі,
Вострa каралёў атакавалі…
Шмат гадоў сплыло з тае пары.

Рэдкія сустрэчаў святы сталі.
Пат перажывае твой настаўнік.



*Ягорку*

Ласкавы ўнучак, так здавацца
Пачаў ты звонкім жаўруком!
А ты ж хацеў бы пачувацца
Ільвом магутным ці арлом…

Быць спрытным і валодаць сілай
Звычайна мараць хлапчукі.
Важней разумным быць, мой мілы,
Каб ганарыліся бацькі.

Чытай часцей, у кніжках многа
Ты знойдзеш мудрасці, мой птах,
Табе адкрыецца дарога
З найменнем самым важкім — шлях.

Ты — фантазёр і ў класе — лідар,
Даўно з камп’ютарам на «ты»,
Пакутнік правапісу літар,
Наш першакласнік залаты.

Любі, шануй матулю, тату,
Братоў, не ўпарты з імі будзь,
Сыночкам добрым будзь і братам,
Бабулю з дзедам не забудзь.

*21.03.2011*

# САНЕТЫ ДЛЯ ДАЧКІ



Я рады за цябе маліцца,
І за абранага твайго,
І за малявачку таго,
Што абяцае нарадзіцца.

Павінна святачка адбыцца,
Калі чакаем так яго!
Хай шчасны будзе новы год —
Вясной пара надзеі збыцца.

Адлік пачнецца новых вёснаў,
З любоўю — вера ў лёс дзівосны…
Як прачынаюся, кажу

Малітву: «Ойча наш нябёсны!..»
І перад лікам светланосным
У будучыню я гляджу.

*Снежань 2009*



Такая паўнаснежная зіма!
Зачаравацца можна ёю.
Ды не захопішся красою,
Калі трывога, ведаеш сама.

Цяпер маіх мне думак не стрымаць —
Яны занятыя табою:
Сваё здароўечка слабое
Чаму ты не спяшаеш падтрымаць?

Ты думаеш, вядома, пра дзіцё,
Хвалю тваё святое пачуццё.
Ды памятай: спатрэбіцца дзіцяці

Шчасліва-жыццярадасная маці —
Карміліца й ахоўніца ад зла, —
Каб доўга-доўга поруч ты была.

*Люты 2010*



Самааддана й мужна ты
Цяжарнасці нясла цяжар.
Трымалі плоць хіба душа,
Дух мацярынства найсвяты.

Прайшла, вядома, шлях круты,
Табе зямны быў коўзкі шар,
І скразнякі былі, і жар
Да сонечнай тваёй вярсты.

Узнагародзіў Бог дзіцём
І мацярынскім пачуццём,
Непараўнаным, трапяткім.

Сын стаўся шчасцейкам самім;
Ты будзеш жыць яго жыццём,
Відаць, не менш, чым я тваім.

*Вясна 2010*



Як сілы знаходзіць табе удаецца?
«Анёл»-немаўля не дае адпачыць:
І днём неспакойны малы, і ўначы —
Так шчасце матулі нялёгка даецца!

І клопатна так, і трывожна жывецца
Табе, хоць ты плач іншы раз, хоць крычы.
А вусначкі, вочкі ўсміхнуцца — й прычын
Няма для хандры, свет дзівосным здаецца.

Сямейнае пекла — жаночая доля,
Дзіцё ўзгадаваць — найгалоўная роля;
Калі не разгубішся, быць пеклу раем…

Між пеклам і раем ёсць сёмае неба —
Мастацтва, якое і кліча, й чакае,
І сцэна — твае і паветра, і глеба.

*19.11.2010*

# Ніне Мацяш — у іншасвет

## І свята, і святыня

Ясным сонцам і зоркаю яркай
Для мяне тваё сэрца было.
Не ўяўлю, маіх дум валадарка,
Без цябе як жыццё быць магло.
Лёс паслаў, хай сабе й пазнавата,
Мне знаёмства, Зямлячка, з табой.
З той пары ты мне сталася святам,
Каб застацца святыняй самой.
Стаў цямнейшы ад цёмнае ночы
Той — з маланкаю — снежаньскі дзень,
Не змаглі пабароць
цемру
вочы —
Гэткі чорны
упаў
весткі цень.

«Раніцою не стала Ніны», —
Мар’і Новік быў скрушны званок.
І прыйшла развітання часіна,
І працяглы быў дзён гэтых змрок.
У журбе я пакутаваў многа.
А ўсвядоміў, уцяміў пазней,
Што такога святла незямнога
Не магло ўжо не стаць у мяне.

*7–8.01–11.02.2010*

# Мелодыя ласкі

Заснежаным шляхам і сцежкаю роснай
Ішоў да цябе — не ісці я не мог:
Чакала мяне ты з усенькіх дарог,
Адорвала ласкай сваёю мілоснай.
Яна праяўлялася ў нашых спатканнях,
Калі да паўночы ішла гамана,
І ў вершах тваіх прыжылася спаўна,
І ў нашым бязмежным з табой ліставанні.
Тваё *Васілёк, Каласочак, Валошык*
Гучыць, як гучала калісь, ува мне
Мелодыяй, роўнай каханню, вясне,
І свет мой падсвечвае шчодра, харошыць.

*12.01.2010*

# У акіяне любові

Азону глытка ад хранічнай самоты
Заўсёды табе бракавала якраз.
На кожны сардэчны парыў у адказ
Купала мяне ў акіяне пяшчоты.
Знаходзіла радасць у позірку й слове.
А ўмела гукаць і — нязменна — чакаць.
Ах, як жа любіла заўжды сустракаць —
Купала мяне ў акіяне любові!

*12.01.2010*

## Бязмежна добрая душа

Ты мне прыслала мумiё,
Як карыстацца, расказала.
Здароўе, пэўна, ты маё
Больш, чым сваё, аберагала.
О, колькi помню я, спярша
Ты клапацiлася пра блiжнiх!
Бязмежна добрая душа
Не ведала турботаў «лiшнiх».
Не столькi, можа, мумiё
Майму здароўю памагала,
Як слова вернае тваё.
Любоў твая аберагала.

*17.01.2010*

# Твая крыўда

Як мог недалікатным словам,
Ці лепш сказаць, неасцярожным,
Няхай сабе і выпадкова,
Цябе пакрыўдзіць так бязбожна!
Я не прыняў твайго паэта,
Твой смелы пераклад Жакмэна,
А напісаў табе пра гэта
Зусім не почыркам джэнтльмена.
О, разумею, як балюча
Табе стрываць было такое!
Тады на водгук мой калючы
Абрынуўся твой гнеў ракою.
Пасля за ўсё мне даравала.
Быў я азораны табою.
Драбніцай крыўда патанала
У моры шчодрае любові.

*9.01.2010*

# Цуды не адбыліся

Шмат розных бачыў дактароў я,
Ды не сустрэў нідзе такіх,
Каб памаглі твайму здароўю.
Мо й не было на свеце іх.
Але ты іх шукала ўсюды,
Нярэдка чуткамі жыла,
Паверыць так хацела ў цуды!..
А рады так і не знайшла.
Я пазнаёміў з экстрасэнсам
Цябе, няўрымсная душа.
Але ж і ў тым знаёмстве
сэнсу
Не аказалася, на жаль.
Сеансы, гоман, абяцанні…
Расталі як туман яны.
Яшчэ адно расчараванне
Заміж цудоўнай навіны.

*12.02.2010*

# Зорка над акном

Я сяброўку тваю дарагую
За мяне папрасіў пакланіцца
Вокнам апошняй кватэры тваёй.
Там, відаць, засталіся
Аркушы белай,
як сёлетні снег,
паперы
З тваім почыркам, бойкім
і гожым нязменна,
На паліцах — палкі кніжак-вояў
У такім непахісным парадку,
У, па сутнасці, вечным страі.
Там застаўся, напэўна, й кампутар,
Які ты асвоіла хутка:
Зручны ён для набору
й гамонкі з людзьмі!
А магчыма, й фіранкі твае засталіся
І цудоўныя кактусы на падваконні,
Што ў тваёй цёплай аўры цвілі.
Адказала сяброўка з болем,
Бо застала цёмныя вечарам вокны.
Але бачыла зорку яна над акном,
І мы з ёю прыйшлі да высновы,
Што тым вечарам гэтак з нябёсаў
Прывітала ты нас.

*14.02.2010*

# Дзе ты?

Сёння — твае імяніны,
Светлы анёльскі дзень
Роўнаапостальнай Ніны.
Ты ў іншасвеце дзесь.
Можа, й анёльскаю справай
Дух твой заняты цяпер?
Толькі суровая праўда:
Так не стае мне цябе!

*31.01.2010*

# Доўг памяці

Жыла ты любячы й кахаючы,
Пайшла ў той свет, даўгоў не маючы.
Гукала шчыра й адгукалася,
Усё ў даўгу не заставалася.
Раллю суровую варочала
Свайго — без краю — поля творчага.
Красу і сілу слова ведала,
І рост, і плён, і славу зведала.
Шчэ талент здольны быў на многае.
Хай бы жыццё далося доўгае!
Замоўкла ліра, слова спеўнае.
Даўжнік-віноўнік твой напэўна я:
Не ўберагла цябе любоў мая!
Баліць душа, маркоты поўная.

*28.01.2010*

# Ты расцвітала ад спатканняў

А час імчыць.
Ужо зімую
Другую без цябе зіму.
І па-ранейшаму сумую,
Але паскарджуся каму?
Я ў памяці перабіраю
Мінулае — мой сум расце:
Сябе віню і дакараю,
Што мог я поруч быць часцей.
Ты ўся была самім чаканнем,
Званкоў чакала і лістоў,
Ты расцвітала ад спатканняў,
Ад кветак і сардэчных слоў.
І ўсё-ткі зноў і зноў спяшаўся
З утульнага спакою я,
Ў сталічны тлум хутчэй вяртаўся:
Чакалі праца і сям'я…

*29.01.2010*

# Цудоўная навіна

Цалюткі дзень сядзеў я дома,
Бы вестку ўсё чакаў адну.
І раптам Кузняцова Тома*
Сказала цуда-навіну:
Бібліятэка гарадская
Названая тваім імём!!!
Калі падзея ў нас такая,
Не так і шэра мы жывём.
Дзе Незалежнасці краіна?
Абрысы бачацца яе:
Край легендарны, край былінны
Сваіх герояў прызнае!

*31.01.2010*

---

* Блізкая сяброўка Н. Мацяш.

# Быць вуліцы твайго імя!

Я не зракуся мроі дзёрзкай:
Аб іншых не кажу краях,
А жыхарам Белаазёрска
Засвеціць вуліца твая;
Хай сціплая, ды гаманкая,
Канешне, й поўная святла,
Адкрытая — якраз такая,
Якой ты на зямлі была.

*31.01.2010*

## Два помнікі

Твая радня па крыві
Табе паставіла помнік,
Арыгінальны такі!
І словы з «Палёту над жытам»
Яна не забыла,
І жаўранка гожа на крыж пасадзіла.
О, гэта сімвал
памкнення да сонца
І прывязкі да роднай зямлі,
Імклівасці тваёй думкі
І бязгрэшнасці ўчынкаў…
Добры густ у радні, далібог жа.
Усвядоміла, пэўна, яна,
Што й сама ты ўзвяла сабе помнік,
Нерукатворны, вядома ж,
Узвяла сваім талентам
светлым і мужным,
Сваёй вышынёю духоўнай,
Сваёй мяккасцю чыста душэўнай
І цвёрдасцю духу. Гранітнай.

*14.02.2010*

# Роздум над сутнасцю

З укарэненасці разлогай —
у яркую ўкаранаванасць,
каб у выспелы момант
увесь плён свайго росту
лёгка ссыпаць у прыгаршчы ветру:
абдуванчык,
дзьмухавец,
малачаінка сонцагаловая!

*Ніна Мацяш*

Люблю ў красавіку палюбавацца
Залатым разлівам абдуванчыкаў
І ўспамінаць сонечную цябе,
І думаць пра тое,
Што вецер свабоды
Панясе ў цёплых прыгаршчах
Плён духоўнага росту твайго
Ў гожыя душы людзей.
Невыпадкова
Твой дзьмухавец, абдуванчык
Мае форму жаночага роду —
Малачаінка!
А яшчэ ж яна — сонцагаловая!..
Здаецца, яна безабаронная,
Нібыта яна і прапашчая:
Потым з ветрам кудысь паляціць…
Што ж так радуе вока і сэрца
Залацісты лужок веснавы?

Я стаю і любуюся стойкасцю красак:
«Вось яна, несмяротнасць красы!»
Кніг тваіх прада мною суквецці…

*6.02.2010*



Мая душа адпачывала
З табою.
            Без цябе тужыў.
І, чуйная, ты адчувала,
Як я табою даражыў.

А развяла нас злая доля.
Хай знае белы свет аб тым,
Пра што не чула ты ніколі:
Як многа значыла мне ты!

*8.03.2010*

## Прымі мае кветкі жывыя

Ты кветкі любіла,
І я кожны раз пры спатканні
Табе іх дарыў.
Цяпер мне здаецца,
Што мала дарыў
І што не заўсёды любімыя.
Не ведаю я, з якім пачуццём
Ты кветкі выкідвала, калі завядалі.

А гэтыя ружы вянуць не будуць.
Іх можна прыняць альбо не прыняць.
Ты толькі прысніся,
А я сны разгадваць умею,
Убачу цябе — зразумею,
Ці прыняла ты ружы,
Што выраслі ў садзе
Любові маёй і журбы.

*Люты 2011*

# У прасторы Бацькаўшчыны

## Будзь дабраславёная

Я люблю цябе, мая Беларусь!
Люблю тваю мірную і мужную зямлю,
Ласкавыя і пагрозлівыя твае нябёсы,
З акіянамі, марамі ды азёрамі сінечы
Між фантастычна-велічнымі гарамі аблокаў,
Паўстаннямі навальніцаў, бліскам маланак,
Гучнымі арганамі грамоў,
сямiструннай вясёлкай.

Самыя пяшчотныя васількі
цвітуць на тваіх палях,
Самыя натхнёныя жаваранкі
заліваюцца песнямі ў тваім небе,
Самыя закаханыя ў свеце — твае салаўі,
Самыя тужлівыя ў свеце — жураўкі твае.

Беларусь! Мая любоў да цябе — святая.
Не магу цябе пакінуць надоўга:
Радавацца і пакутаваць хачу толькі з табой
(Спачуваю змучана-змушаным
                    тваім эмігрантам —
Папярэднікам і сучаснікам,
                    а магчыма, й наступнікам)…
Ты ўся — з песнямі, палямі і пушчамі,
                    рэкамі і азёрамі,
Дарогамі і сцяжынкамі, крыжамі і валунамі—
Жывеш у маім сэрцы.

Мая любоў да цябе драматычная,
Маці-пакутніца, у стагоддзях залежная,
Жорстка абкрадзеная, зняважаная!
Скрыжаванне тваіх шляхоў —
Гэта крыж, на якім распнуты
Хрыстос запаветнае волі тваёй.
Але мудрыя твае казкі вучаць:
Агрэсіўнае, вераломнае зло
Не зможа перамагчы даверлівага дабра.
Ці не таму ў тваёй чуйнай душы
Побач з легендамі й казкамі
Народжаны самыя сардэчныя песні
І гучаць яны на мове такой мілагучнай!

Маці прачыстая! Кланяюся табе,
Няскоранай, мужнай, пакуль незаможнай,
Лясной і азёрнай зямлі,
Сівым курганам, манументам,

Нябёсна-сінім зорачкам васількоў;
Услухоўваюся, як цішыня крыніцаў,
Водар суніцаў, грыбоў
Рыфмуюцца з навальніцай, дажджом,
раскатамі грому —
І душой багамольна ўзыходжу
Да жаўруковых мелодыяў,
Да мадрыгальных пошчакаў салаўёў,
Светлай тугі жураўлінай,
Да нябёсаў тваіх жыццядайных.
О, мая назаўсёды любімая,
Будзь дабраславёная!
Багаславёная!

*1995, 2010*

# Усяслаў Чарадзей

Не легенда і не казка —
Праўда з даўніны ідзе:
Князем Полацкага княства
Быў славуты Чарадзей.
Легендарны Усяслаў
Пры жыцці легендай стаў.

Слава князю Усяславу:
Мацаваў сваю дзяржаву
Той, хто з роду крывічоў;
Слава князю Чарадзею:
Ён перамагаў зладзеяў,
Што паўзлі з усіх бакоў.

Паважалі Усяслава
І свае, і чужакі:
Хто — за розум,
Хто — за славу,
Хто — за сілу,
Свет такі.

Слава князю Чарадзею:
Быў ён верай дабрадзеям,
Злыдням волі не даваў,
Княства так любіў заўсёды,
Як жыццё і як свабоду,
Пра яго да скону дбаў.

# Еўфрасіння Полацкая

У прачыстае князёўны
Зорны лёс, такі цудоўны!
Шлях ёй з многасці дарог
Паказаў нібы сам Бог.
Крывічанка Еўфрасіння,
Край жыве пад небам сінім
І пад небам залатым
З вобразам тваім святым.

Еўфрасіння, ты — святая;
Слава добрая твая
У стагоддзях вырастае,
Зоркай свеціцца імя.

Як не будзе ў душах ладу,
Сатана пакажа ўладу…
Супраць цемры, цемнаты
Запаліла свечку ты.
Еўфрасіння-палачанка,
Неўміручая заранка,
Храм святла — твой верны дом,
Стала ты сама святлом.

# Продкі

Старонкі гісторыі роднае
Чытай — і уведаеш ты:
Вялікае Княства Літоўскае —
Дзяржаўнасці век залаты.

З Міндоўгам, Альгердам і Вітаўтам
Краіна мацнела, расла,
Магутная і самавітая,
Вядомая ў свеце была.

Былі зухаватыя, спраўныя
Далёкія продкі твае,
Свабодныя — паўнапраўныя
(Нам годнасці іх не стае);

Зямлю берherаглі сваю, спадчыну,
Бацькоў шанавалі й дзяцей,
Любілі як след мову матчыну —
Усё было
як у людзей.

# Францішак Скарына

1

У справах цудоўных
Вялікага сына —
Святло старажытнай
Адметнай краіны.
Ён першадрукар,
Ён прарок мудрых кніжак —
Францішак Скарына,
Скарына Францішак.

У чутым далёка,
Шырока вядомым
Ёсць подых, ёсць рэха
Вясновага грому
І ёсць цудадзейна-гаючая ціша:
Францішак Скарына,
Скарына Фран-ці-шак!

Жыве яго Слова —
Ў ім дух Адраджэння,
Малітва-замова
Супроць адчужэння.
Хвала табе,
Маці святая – Краіна,
Што ты нарадзіла
Прамудрага сына!

2

Святло запаветаў
Пранеслі вякі.
Далёкі Скарына,
Ён блізкі такі!
Нібыта ікону,
Яго мастакі
Малююць з высокім натхненнем.
Праходзяць прад ім
Пакаленні;
Шануюць
Свайго бога кнігі
адны,
Пасевы ахоўваюць ад сатаны,
Другія ж —
усё сатане аддаюць.
І той робіць поле ўрадлівае голым,
І людзі не жаць і не сеяць ідуць,
Не ў храм іх дарогі і сцежкі вядуць,
А толькі на дзікае чортава кола…

3

Бог кнігі,
Бязбожнікаў ён не карае,
Не ганіць нікога і не дакарае,
А ўсё прапаведуе людзям любоў
Да веры, да ведаў, сваіх каранёў.

Ён памятае
Берагі Палаты…
Вяртаецца ўсё з забыцця і скажэння,
Ён нам, доктар духу, нясе ачышчэнне —
Францішак Скарына. Святы.

# З гісторыі нашай зямлі

…Тысяча пяцьсот шосты —
Ён памятны — год.
Войска крымскіх татараў
Крывавы паход.

На тым беразе Лані —
Гірэя сыны,
А на гэтым — князь Глінскі,
Папросту — Мажны.

Тут — Вялікага Княства
Вайскоўцаў сям’я,
Там — захопнікаў процьма,
Іх больш удвая.

Пераправа. Атака,
Ў якой два крылы.
Налятаюць знянацку
Героі-арлы.

Рэзкім конніцы ўдарам
Князь робіць наскок,
Войска хіжых татараў
Рассек назнарок.

Нішчаць ворага воі,
Кожны б’ецца за двух,
Б’юцца воі за волю,
Змагароў моцны дух.

Ля пяшчотнае Лані
На ўлонні лугоў
Усю моц вораг зведаў
Жывых абцугоў.

І пагоні адведаў,
І палону — як след…
Ўнук пытаецца ў дзеда
Пра сваіх продкаў след.

## Шчыт і меч

Шчыт і меч маёй зямлі,
Вечна побач вы былі.
Вы спазналі, шчыт і меч,
Многа з ворагам сустрэч,
Стрэч крывавых — з крыжакамі,
А часамі — з казакамі…
Шчыт і меч,
                    з далёкіх лет
З вамі воі не драмалі —
Моцна у руках трымалі,
Білі ворагаў як след.

Гарадзенскі-князь быў знаны,
Заваёўнікаў паганых
Шмат рассеяў ён касцей;
І Астрожскі, гетман слаўны,
У баях адважны, спраўны,
Гнаў няпрошаных гасцей,
Там не ведаў ён пралікаў;
І Батура, князь вялікі,
Гнаў захопнікаў шматлікіх —
Вызваляўся край, чысцеў.

Шанаваць герояў будзем.
Хіба можна іх забыць?!
Не забудзем — лад здабудзем
І як людзі будзем жыць.

# З імём Тадэвуша Касцюшкі

І кроў пралітая, і раны,
І Петрапаўлаўскі астрог —
Усё было, калі тыранаў
Перамагчы змагар не змог.

Пайшлі душыцелі свабоды
Па касінеравых касцях.
Прыгонных — як узнагароду —
Ім раздалі ў тваіх краях.

Але не змог прыняць няволю
Твой дух — паўстаў, яднаў людзей,
Ты клікаў іх да лепшай долі,
Да гераічных, чынных дзей.

# Кастусю Каліноўскаму

Кат
На шыю накінуў пятлю
І з-пад ног тваіх выбіў зямлю,
Па якой ты ішоў гэтак годна…
А душу
не задушаць пятлёй,
А душа
над зямлёй, над зямлёй.
А душа над зямлёй сваёй роднай
Сонцам праўды
ўзыходзіць свабодна,
Узыходзіць
змагання зарой,
Незабыўны народны герой.

## Францішак Багушэвіч

Хадзіў на бітву* за людзей,
Не шкадаваў крыві пралітай —
Ён быў паранены глыбей
Несправядлівасцю адкрытай.

За праўду словам ваяваў,
Калі хлусіць было так модна,
З ваўкоў авечыя зрываў
Ён маскі, адвакат народны.

Сябе пазнаць павінен кат
У Багушэвічавых кніжках.
Любі, народзе мой, Францішка —
Табе ён верны адвакат:

За мову і за мужыка,
За Беларусь
стаіць гарою.
Пяро Мацея Бурачка**
Не забаўлялася гульнёю.

Пяро стварала запавет
Нам, беларусам: «Каб не ўмёрлі…»***,

---

* Францішак Багушэвіч — удзельнік паўстання Каліноўскага.

** Адзін з псеўданімаў Багушэвіча.

*** Словы з вядомага заклiку Багушэвiча: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі».

Каб не стаяў ніхто на горле,
Каб паважаў нас
цэлы свет.

## Уладзімір Караткевіч

Он лежал без движенья, как будто по тяжкой работе
Руки свои опустив.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
…мнилося мне, что ему
В этот миг предстояло как будто какое виденье,
Что-то сбывалось над ним, и спросить мне хотелось:
что видишь?

*В. А. Жукоўскі*

…Волі нашай крывавыя роды…

*У. С. Караткевіч*

Апантана-рашучы і чуйны, відушчы,
Не сябе шанаваў, не сабой даражыў —
Нёс ён з пушчы стагоддзяў, глыбокае пушчы,
Кветку матчынай чыстай душы.

Кветкі сэрцам кранаўся — легенды сівыя
Не з Афінаў выходзілі, звалі не ў Рым —
Паўставалі ахвярныя, вечна жывыя
Каліноўскі, Вашчыла, Багрым.

Крэўны сын Беларусі, быў, ёсць ты і будзеш
З векавечным народам, ягонай красой.
Абудзіўшы надзею, і долю абудзіш,
Ты — сумленне і драма краіны сваёй.

*1984, 1988*

## Старадаўняя балада

Купальскай ночкай зорнай
На беражку азёрным
Вянок сплятала панна
Ля чыстае вады.
Да гожай стройнай панны
На скакуне буланым
Пад’ехаў чужаземец,
Вясёлы, малады.

Перад красой дзявочай
Яго гарэлі вочы:
Юнак хваліў дзяўчыну,
Яе зачараваў;
І запрашаў на мора,
Дастаць гатовы зоры,
Ён залатыя горы
Прыгожай абяцаў.

Пад ветрам ласкавым
Шаўковыя травы
Калыхаліся,
Там доўга маладыя
Мілаваліся.

Каханы і жаданы
Паехаў нечакана
Да іншае каханай,
Вясёлы, малады.

А панна ночкай зорнай
Брыла дарожкай чорнай
Зноў да вады азёрнай,
Да чыстае вады:
«Стань, родная вадзіца,
Навек маёй сястрыцай,
Адна ты зразумееш,
Чым ёсць мая бяда!..»
І абняла дзяўчыну
З яе цяжкой журбінай,
З яе адной правінай
Халодная вада.

Пад ветрам суровым
Самотныя лозы
Калыхаліся.
І доўга неба слёзы
Праліваліся.

Праз год пад небам зорным
Той самы вершнік ехаў,
На беражок азёрны
Ахвотна павярнуў —
Не павініцца панне.
Ён ехаў з палявання,
На беразе спаткання,
Прытомлены, заснуў.

Конь пасвіўся буланы.
Чужынец не спатканы

Пяшчотны голас панны
Чуў у кароткім сне:
«Я так цябе кахаю,
Адно цябе чакаю,
Ты толькі не спяшайся
Ў абдымкі да мяне!..»

Той ночкаю лозы
І вербачкі нізка
Нахіліліся.
З вачэй юначых слёзы
Пакаціліся.

# Неруш

Колькі вёснаў ні пражыта,
А як вернешся здалёк —
Заварожыць каля жыта
Сінязорка-васілёк;
Тонкім водарам здаецца
Палыновы горкі пах
І ляціць, ляціць да сэрца
Над крыніцай белы птах.

Забрыдзеш паволі ў неруш
Дзе далёка ад дарог —
І душою ўсёй паверыш:
Край бацькоўскі даў нам Бог.
Да цябе павек вяртацца,
Храм пад купалам нябёс.
Я гатовы спавядацца
Перад свечкамі бяроз.

Патануць люблю ў рамонках,
Не паранены журбой,
І заслухацца гамонкі
Ветру з ніцаю вярбой.
Думы-сокалы на волі
Да нябёсаў я нясу
Пра тваю, Радзіма, долю
І адвечную красу.

*Травень 2010*

# Пажыццёва

Дружа дзяцінства, родны вяз!
Няма ні руінаў падмурка,
На якім узвышалася хата,
Ля якое ты рос,
Ні самога цябе.
Дзікае калгаснае земляробства
Асушыла і сажалкі, і крыніцы,
На якія ты змалку глядзеў.
Памёр ты ад стрэсу.
Але сваімі лістамі-далонямі
Прылашчыць мяне паспеў
І голасам ціхім
Да гэтай балючай мясціны
Ты, вяз, прывязаў маё сэрца
І з той пары, вязе, мяне абавязваеш
Не адвязвацца
Ад успамінаў дзяцінства,
Ад родных мясцінаў,
І я, нібы вязень,
Што прагне свабоды,
Вяртаюся абавязкова (часта ці рэдка)
Пастаяць там, дзе хата стаяла,
Дзе рос я разам з табою,
Вяз мой, такі невязучы!

*1–13.03.2011*

# Накanаваны

*Акраверш*

**М**ы — шчасныя ўсе, бо нам дадзены Небам
**А**дама й Марыі няўрымслівы сын.
**К**раіна чакала, як з голаду — хлеба,
**С**вятлейшага творцу высокай красы.
**І** ён, зорны геній, з’явіўся, жаданы,
**М**астацкага слова наш вернападданы.

**Б**ог даў Беларусі, як свята, паэта,
**А** з ім — адчуванне святой вышыні,
**Г**аючае цуда — узор чысціні,
**Д**аў яркі узор чалавечага свету,
**А**дданасці роднай краіне убогай,
**Н**е часта хоць нават ён бачыўся з ёй.
**О**, дадзена многа Айчыне маёй,
**В**ядома, й забрана заўчасна так многа!
**І** жаль мой нязбытны (мажліва, залішні):
**Ч**аму так жыцця недадаў Усявышні?

*19.01–9.02.2011*

# Азначэнні малююць партрэт

*Акраверш*

**М**удры. Мужны. Малады. Мілавідны.
**А**зораны.
**К**ранальны.
**С**амабытны.
**І**нтэлігентны.
**М**ілагучны. Маласлоўны. Магічны.

**Б**язмежны. Беззаганны.
**А**дметны. Апантаны.
**Г**еніяльны. Годны. Гуманны.
**Д**балы. Далікатны. Дасціпны. Дасканалы.
**А**духоўлены. Азораны.
**Н**езалежны. Нязломны. Назорны.
**О**думны.
**В**ыключны. Верны. Вобразны. Вымоўны.
**І**дэальны.
**Ч**уйны. Чароўны.

*Люты 2011*

# Анатолю Сысу — у іншасвет

У Гарошкаве помнік паўстаў
Ля грудка, пад якім ты спачыў,
Помнік гожы, змястоўны,
Непадобны да іншых
(Ты ж і сам непаўторна-адметны);
Каля хаты тваёй
Вершы й песні гучаць
Кожны год на твае нарадзіны;
Томік «Лёну» твайго цешыць сэрца;
Толік, мілы, ўсё гожа —
Малайчына Акулін: шануе СЫСА,
І жыве наш эСПэ,
Жаль адно, што ў няволі Някляеў!..
Пачакай, што ж дагэтуль табе не сказаў:
Я ў Гарошкаве бачыў сыночка твайго,
Ён глядзеў на гасцей, светлачубы,
З-пад крыса сваёй мамы,
А тваёй укаханкі.
Як я рад:
Страцім-лебедзя лёс
Размінуўся з табой —
Застаецца крывінка твая!
Для мяне гэта — свята,
Нечакана-жаданае.
Толік — сонейка!

*2008, 2011*

# Кніга не здрадзіць

*Людміле Несцяровіч*

У нашым свеце мітуслівым,
У агрэсіўным і хлуслівым,
Дзе не дае спакою ліха,
Паўстане радцай добрай кніга.
Багатая сардэчнай мовай,
Яна ў будзёншчыне суровай,
Дзе здрадаў цьма і звадак поўна,
Сяброўкай можа стаць цудоўнай.
Дзе шмат выпрабаванняў вечна,
Хвароб і стрэсаў небяспечных,
Тут кніга мудрая стаць можа,
Бясспрэчна, лекаркай харошай.
У драматычным свеце й тлумным,
Дзе шумных шмат падзей і сумных,
Ад усялякіх бедаў, ліха
Яна дапамагае ціха.
Яна не лішняя і ў шчасці,
Калі забыты ўсе напасці.
Дапоўніць можа кніга радасць.
Яна табе не можа здрадзіць.
Усім і кожнаму я зычу
(Жадання, хочаце, пазычу)
Сустрэцца з кнігаю цудоўнай,
Каб шчасце піць. Ды з чары поўнай.

*Люты 2011*



*Валянціну Перапёлкіну*

Люблю я
музы́ку ад Бога,
Такога душой маладога!
Ляцяць да яго звысоку,
З блакіту і з белых аблокаў,
Перамагаючы морак,
Мелодыі сонца і зорак.

# Гаспадыня школьнай бібліятэкі

*Святлане Собаль*

Пайшоў да кнігі школьнік слепа —
Стаў выпадковае чытаць,
Душу сваю пазбавіў хлеба,
Якога ёй павінен даць…

Так, не ўсім дзецям
Шанцуе на добрых пасрэдніц
Паміж імі і яе вялікасцю кнігай.
Але такія асобы ёсць, на шчасце.
Яны за кніжнаю вокладкай,
Якую я называю вопраткай,
Бачаць, наколькі там жывая
І чыстая, наколькі беларуская
Д у ш а.
І вынік — мёдам па сэрцу…

*Люты 2011*



*Светлай памяці Вольгі*
*Мікітаўны Рогавай*

Век свой, жыццё прыстойнае
Настаўніца пражыла,
Вучням, як сонца нястомнае,
Несла прамені святла.

Сэрца зачараванае
Матчынай мовай было.
Дзецям падараванае
Роднага слова святло.

Сонейка непагаснае
Рушыла за далягляд…
Неба такое яснае,
Як вочы яе, як пагляд.

Наўкола — ані хмурыначкі —
Блакітная вышыня.
Не ўпала ані сняжыначкі.
Нязлосны мароз. Цішыня.

*28.02.2011*

## Эмацыйная і сардэчная

Вікторыя Азаранка, азартная ў тэнісе,
Я заўсёды прагнуў тваіх перамог
На кортах планеты.
Радаваўся за поспехі,
засмучаўся няўдачамі.
Часам не шанцавала,
ты ажно ламала ракетку,
Я адчуваў тваё сэрца гарачае.
Адчуў яго асабліва
Пасля таго, як наведала ты
Ў Бараўлянах дзяцей нешчаслівых
І з Каралінай Вазняцкі,
першай ракеткаю свету,
Пасля відовішчнага з ёю матча
Ахвяравала грошы на іх лячэнне.
Я ўбачыў вочы твае, поўныя слёз,
Чуў, як голас дрыжэў,
калі ты прамаўляла.
Ты, відаць, зразумела,
Якое чубатае беларускае гора,
А шчасце, калі яно ёсць,
нейкае лысае дужа.
Мне так імпануе, што ты,
Адна з наймацнейшых спартсменак Зямлі, —
Душою прыгожая, не толькі лікам;
Краса твая будзе людзей ратаваць,
Перамоганосная Віка!



Вясна, жаўручок! Прылятай:
Дзень большае, меншае ночка.
Ты неба душы прывітай
Сваім мілагучным званочкам.

Вяртайся хутчэй у свой край,
Срабрыстаю песняй заліся,
Ты сэрца маё прывітай
І песняю ў ім пасяліся.

Ды што я кажу?.. Пачакай!
Няўжо табе гора я зычу?!
Яшчэ пасумую няхай —
Цябе я пакуль што не клічу.

Ударылі ў нас халады
У зговары з цемрай начною,
Тут блізка, мой птах, да бяды…
Так крыўдна замёрзнуць вясною!

*23–24.03.1996*

# Вершы розных гадоў

## Вера

Прыручаў драпежнага звера
Чалавек — і жыла ў ім вера.

Глыбіню акіяна мераў —
І жыла ў чалавеку вера.

Адчыняў ён і ў космас дзверы —
І жыла ў чалавеку вера.

Ці ў сабе пераможаш звера,
Чалавек?.. Што ж губляешся, вера?

*1970, 2010*

## Шкалярова скарга, або Хто ж мы?..

Беларус я, чуць хачу я
Беларускі гаманок.
Ад настаўніцы пачую,
Як адно вядзе урок.

А як толькі выйдзе з класа
Да кіёска ці да касы —
Там ужо няёмка ёй
З мовай матчынай сваёй.

Свет багаты, свет нявузкі.
Дзе ж яшчэ жыве яна,
Нашай мовы гамана?
У тэатры беларускім.
(Ды на сцэне. А ў фае
Рэдка чуем мы яе.)

Чуем дыктараў-артыстаў
У эфіры з мовай чыстай.
Прыкладу няма цаны.
Дзе ж высокія чыны?
Прыклад даць маглі б міністры,
Ды лянуюцца яны.

Прыклад мог бы даць цудоўны
Ўсім нізам Савет Вярхоўны,
Толькі ён пакуль глухі,
Як і іншыя вярхі.

Хто ж мы ў гэтым белым
свеце?
Ці задумаліся ўсе:
Што, калі ў пустыню вецер
Слова продкаў панясе?!

Карані сілкуюць крону…
Беларусы мы ці не?
Як на белую варону,
Не глядзіце на мяне.

*1989–1990*



Няўжо, няўжо, скажы,
Зянон Пазняк,
Мы безнадзейна так спазніліся?
Няўжо нам толькі сны прысніліся,
Якім не спраўдзіцца ніяк?!

Няўжо людзей з каленяў не падняць?
Няўжо са спінамі сагнутымі
Ім жыць, не развітацца з путамі,
І панавацьме ўсё хлусня?

Няўжо на нас ляжыць
пракляцця знак?!
Калі святая вера вернецца,
Што ўсё да лепшага павернецца?..
Дзень позніцца, Зянон Пазняк.

*1991*

## Выпрабаванне

Там сонейка зрэдку праб’ецца
праз хмараў аблаву,
Тут праўда — праз чорныя хмары
абвальнай хлусні.
Дзіўлюся, наколькі
паказвае неба дакладна,
Што дзеецца ў нас на зямлі,
дзе няма цішыні.

*1994*

# У войска

*Сыну*

Расчыняцца жалезныя вароты —
Цябе да войска хутка павядуць…
Заменяць волю рознаю дурнотай,
Табе дыхнуць спакойна не дадуць.

Спазнаеш муштру ты і мацяршчыну.
О, як дапамагчы табе цяпер?!
Ад старшыны ліхога й дзедаўшчыны
Няхай жа лёс аберажэ цябе!

*1985*

✧✧✧

Што са мной, не пытайце ў мяне, дарагія.
Сакрушае, мардуе мяне алергія.

Алергія на што? Б’юся месяц
другі я:
На пустыя рублі, ці на чэргі даўгія,
Ці на тое, што ў розныя ўлажу даўгі я,
Рэагую так востра? Ў мяне алергія.
Гэта ўсё — толькі повад,
прычыны — другія:
З’явы болей балючыя, з’явы ліхія:
Прысак, попел Чарнобыля,
цень Курапатаў…
Беды ў глупстве чыноў
і ў жывучасці катаў,

Беды ў здрадзе, халуйстве,
учынках паскудных,
У хранічных грахах,
беды ў снах непрабудных.
Ажно пухне душа ад даўжэзнае ночы.
Не запухлі б ніколі відушчыя вочы!
Бачу ўсё: і журбу, і галечу, і гора.
Праўды бура, ляці да народнага мора…

Па радзіме свабоднай маёй настальгія…
А на ўсякі палон у мяне — алергія.

*1995, 2003*

# Пад наркозам

Вялікая сіла наркозу:
Усё без цябе разлічылі,
Пачуцці твае і розум
Імгненна, ураз адключылі…

Гаротніку мрояцца крыллі,
Чароўнае музыкі гукі.
Ачнуўся — ты ўжо ў эйфарыі,
Нібыта ні болю, ні мукі.

Язык твой яшчэ непаслушны,
А ўжо й кампліменты гаворыць…
Наркоз прыгадаю — мне скрушна:
Ах, што з чалавекам ён творыць!..

Пабудзеш раз іншы на сходзе —
Адчуеш: нібы пад наркозам
Прамоўцы пачуцці і розум —
З вярхамі у поўнай ён згодзе.

*2003*

# Расіі

Не купайся, Расія, ў крыві,
Ні ў сваёй, ні ў чужой не купайся,
Ты за зброю хутчэй не хапайся —
Мудрасць, волю сваю праяві
І ніколі душой не крыві,
У любові часцей прызнавайся
І ў любові жыві.

Ах, Расія, магу уявіць,
Як сынам тваім, дочкам баліць,
Калі сам я ўспрымаю балюча
Рэвалюцый і войнаў бяду!
Ну няўжо цябе гора не вучыць?!
Дзе адказ і калі я знайду?

Праваслаўе тваё і вайна,
Бог святы і крывы сатана
Сумяшчаюцца як жа, Расія?
Можа, зноўку распнуты Месія?
Я, Расія, хачу уявіць:
Ля магіл, цішынёю спавітых,
З пакаяннем за процьму забітых
Ты не стала купацца ў крыві.

*Вясна 1996*

# Скон рэкеціра

Вянок утваралі машыны
Ля дома, дзе стала труна.
Там юны, там ранні мужчына
Ад фінкі-маланкі сканаў.

У ружах труна патанала,
Была дарагая яна;
Над мёртвым кадзіла ўзлятала, —
За ўсё заплацілі спаўна.

Плюгавенькія шчыравалі
(У куртках усе скураных).
Які яны доўг аддавалі?
Даніну павагі? Віны?..

Вясна на снягі наступала,
Жыццё абуджала вясна.
Жыццё маладое прапала,
Ў зямлі патанала труна.

І смутак і плач быў нялішні:
Загінуў сынок без вайны.
Няўжо толькі мог Усявышні
Забраць яго з рук сатаны?

*1996*

## Алесь Ставер

Воблік смерці убачыў сваёй —
Не здранцвеў ні на міг перад ёй,
Не паверыў, праскочыць хацеў,
Ды імгненна той смерч наляцеў.

З катастрофы не выйшаў паэт,
Што людзей перавёз цэлы свет,
Што з дарогай і з песняй дружыў,
Не заўсёды па правілах жыў.

Яго песня да нас прылятае:
«Беларусачку» Данчык спявае.
Будзе новы пясняр напяваць:
«Жураўлі на Палессе ляцяць».

*1996*

# Трыялет

*Міхасю Казлоўскаму*

Памяткое ўражлівае сэрца
Заўтрашняй
больш
Бацькаўшчыне
служыць,
Сённяшняй патрэбна бо нядужа
Памяткое ўражлівае сэрца.

Хоць яно пакутуе і тужыць,
З вернае арбіты не саб’ецца —
Памяткое ўражлівае сэрца
Заўтрашняй
больш
Бацькаўшчыне
служыць.

*2007*

# Кемлівыя птахі

На адным з помнікаў Менску
Выбіта: ФЭ Дзяржынскі,
Хоць і так вядома:
Дзяржынскі — фэ!..
Гэта й два птахі адчулі,
Што селі на галаву
Справіць патрэбу.

*1990, 2010*

# Замалёўка

Горад абняў жытнёвае поле
Пад’ёмнымі кранамі,
Будаўнічымі пляцоўкамі
Ды гандлёвымі кропкамі.
Горад пашырае межы
За кошт раёна,
Крочыць па яго землях.
Раён хутка справіць дажынкі
І, пэўна, апошні раз
Ён збярэ ўраджай
З абкружанага «монстрам» поля,
Каб накарміць свежым хлебам
Свайго захопніка.

*7.07.2010*

## Царква, святар і пацукі

*У. С. С.*

А святар будаваў людзям храм,
Не адзін замінаў яму хам.

Год за годам святар шчыраваў,
Павячэраць не раз забываў.

Храм сышоў з яго лёгкай рукі —
Увайшлі ў чысты храм пацукі.

Самы смелы з іх кажа яму:
«Замінаеш ты войску майму,

Не патрэбен парадак нам твой —
Ты на нашай дарозе не стой!..»

Здзіваваўся святар, думаў ён,
Мо кашмарны яму сніцца сон.

Ён святыняю так даражыў,
Верай, праўдаю людзям служыў,

Дзеля іх узвёў храм на вякі!
А ў яго увайшлі пацукі…

*Кастрычнік 2008*

# Лядаўскі манастыр

Продкі лес высякалі — з’яўляліся ляды.
Тут жыты гадавалі, сяліліся продкі.
Так узнікла пад сонцам
паселішча Ляды
З гэткім чыстым і звонкім
найменнем кароткім.

Людзі праглі душою духоўнага ладу,
Так, жылі нашы продкі
не хлебам адзіным —
І ўзнімаўся да сонца ў паселішчы Ляды
Манастыр —
як святыня гаротнай Радзімы.

Пралятаюць вякі, не руйнуюцца Ляды.
Гнёзды ўюць пералётныя птахі…
Мы да неба звяртаемся, прагнучы рады,
Тут малітвы да Госпада ўзносяць манахі.

Сэрцу блізкі, прыемны пагляду,
Дружны наш манастыр
з небам хмарным і сінім.
Не пытай жа, зямляк, дзе дарога на Ляды,
Калі толькі жывеш ты
не хлебам адзіным…

*13.08.2009*

# Імправізацыя

Як на галінах дрэва —
На скрыжаваннях сонечных промняў
І сокаў зямных —
З’яўляюцца покаўкі, цвет, завязь пладоў,
Так на галінах свядомасці творцы —
На скрыжаваннях кроз і любові высокай
З красою Сусвету —
З’яўляюцца покаўкі, цвет, завязь твораў.
Завязь твораў, як і завязь пладоў,
Праходзіць канкурэнцыю —
натуральны адбор.
Ну, вядома, свядомасць
не гэтак нязменна і мерна
Вырошчвае, спеліць свае тварэнні,
Як гэта можа дрэва
дзякуючы сокам і сонцу, —
Свядомасць творцы тузаюць
Штуршкі бытавыя, маральныя, сацыяльныя,
Яны ці тармозяць, ці паскараюць працэс.
Плады спажываюцца арганізмамі,
Творы — душамі.
Плады, смачныя, апетытныя,
Даюць энергію плоці,
І толькі іх водар, краса афарбоўкі і формы —
Спажыва душы.
Творамі ж, іх асалодай
Выключна сілкуюцца душы.

*Лета 1996*

# Драма

Пахаваў дзяцей малых Сымон
(Дзетак радыяцыя забіла,
Сына і дачку), спакой і сон
Страціў ён і ходзіць да магілак.
Ён сюды не можа не ісці,
Пераржыць не можа цяжкай страты,
Кажа тут у самазабыцці:
«Дзе вы, дзеткі, пойдземце дахаты».

«Што ж ты, татка, нас адвёз сюды?
Нашы сонца й зоркі зніклі недзе.
Абяцаў, што выйдзем мы з бяды,
Што лячыцца за мяжу паедзем.
Нас тады лячыцца за мяжу
Не адправіў, татачка, чаму ты?»

«Мае дзеткі, як вам дакажу,
Што нідзе не мог дастаць валюты…»

Ён ужо даведаўся пазней,
Што начальства, чалавека-лісы,
За кошт апраменёных дзяцей
Ладзіла замежныя круізы.
Ведае цяпер бядак Сымон,
Што сістэма д’яблава дабіла
Сына і дачку; спакой і сон
Страціў ён і ходзіць да магілак.

*1990*

# Далёкі ўспамін

Уся з агню ты маладога
Была ў завею і ў мароз.
Якую, думаю, дарогу
Нам рыхтаваў аднойчы лёс?

Насустрач мне сябе нясла ты
У першацвеце пачуцця,
Хоць ведала, што я жанаты,
Што не пакіну я дзіця…

Ўва мне міжвольна адбываўся,
Не заціхаў нябачны бой:
То апантана любаваўся
Я весялушкаю табой,

Паставай статнаю дзявочай,
Агнём нятрачаным, жывым,
Дрыготкім голасу званочкам
І завіточкам залатым;

Будзённы дзень здаваўся святам,
Я так душой адпачываў!..
То легкадумным, вінаватым
Сябе я раптам пачуваў —

Пачуццяў разбураў адзінства
Твой юны вобраз пекнаты,

Мне ўсё здавалася:
з дзяцінства
Як бы яшчэ не выйшла ты.

Паўстаючы над сілай жарсці,
Ад шчасця рукі я адвёў…
Каму ты ўдаравала шчасце?
Дзе ты? Дзе сонейка тваё?



*Любові Арцюховай*

Вясною ранняй цуд не мог не збыцца:
Калі йшчэ птушак вырай не вяртаў,
У нашу беларускую сталіцу
З рамансамі Пагудзін завітаў.

У поўнай і зачараванай залі
Было так светла сэрцу й галаве!
І скрыпка, і гітара заміралі,
Калі спяваў натхнёна салавей.

Я забываў на ўсіх эстрадных птахаў.
Забэйду-чарадзея ўспамінаў…
Аб драматычным беларускім шляху
Пагудзін думаць мне не замінаў.

*14–15.03.2010*

# Два вершы пра адну стыхію

*Вадзіму Жылко*

*

Шахматы, вы не на жарт
Дадзены, не на забаву,
З вамі не толькі азарт —
Волі й натхнення праява.
Вы — не для шэрых людзей.
З вамі — бяссонныя ночы.
Вас не разлюбіш нідзе,
Упадабаўшы аднойчы.
Шахматы — строгі іспыт,
Шахматы — выбар дарогі…
Шахматы — шлях барацьбы,
Шахматы — смак перамогі!
Вас не разлюбіш павек,
Вас не заменіш дарамі.
Бедны той чалавек,
Што не выхоўваўся вамі.

*

Калі разважаю
Пра шахматы, іх невычэрпнасць,
Красу і сілу атакі,
Гульнявых камбінацый,
Бліскучых задач і эцюдаў,

Узнікае пытанне:
«Хто пра ўсё гэта
Не суха, а з захапленнем,
Цікава, пераканаўча
Мог бы павесці гамонку
На старонках масавай прэсы?»
Я адказваю: «Толькі Каіса».
Калі думаю я пра паэзію шахмат,
Мне здаецца, пра гэта
Распавесці можа толькі паэт,
У шахматы фанатычна ўлюбёны,
Бо паэзія шахмат —
Далікатная боская рэч,
Спалучэнне той жа красы і сілы.

*2005, 2009*

# Белы верш пра апантанага творцу

Вольфа Рубінчыка
Неяк назваў я
Андарсанам у шахматах,
Тады яшчэ не ведаючы,
Што грасмайстар Бранштэйн
Запавятаў яму:
«Галоўнае ў шахматах —
Гэта фантазія…»
І толкам не ўяўляючы,
Які цудоўны ён фантазёр!
Як праблеміст за тры гады
Узбагаціў казачныя шахматы
Ажно пяццю фігурамі,
Стварыў задачы з удзелам
Поні, казы, вожыка, вароны і шчупака.
Гэта захапляльнае спартовае мастацтва!

А калі я засвоіў ягоную кнігу
«Жывуць вольныя шахматы»,
То зразумеў,
Які ж ён выбітны і паслядоўны даследнік,
Засяроджаны аналітык,
Размаіты, шматколерны, нібы вясёлка, наватар,
Разняволены, глыбокі пісьменнік,
Часта дасціпны,
І — так немалаважна —
Бліскуча валодае «тарашкевіцаю»…

Брава, Вольф! Я ўпэўнены:
Давід Ёнавіч задаволены —
З нябёсаў усё ён бачыць.

*10–11.09.2010*



Я люблю чысціню.
І таму заміраю
Перад сонечнаю чысцінёю,
Перад зоркаваю, нябёснай,
Чысцінёй жаўруковых мелодый,
Зары вечаровай,
Чысцінёй буйных росаў світальных,
Васількоў і рамонкаў —
Мне падоранаю чысцінёй.

Чысціня тваіх мілых вачэй
І пялёсткаў абуджаных веек,
Чысціня тваёй шчырасці поўнай,
Тваёй добрай усмешкі,
Пацалункаў салодкіх, з гарчынкай
І тваёй эмацыйнай слязы —
Свету белага цуд найвялікшы!

Я люблю чысціню.

*2001*

## Помны ўзлёт

Сэрца
        чуццёвыя мела
Бела-ружовыя крылы
Мроі і чысціні,
К сонцу памкнулася смела —
Крылы сабе апаліла
Ў сонечнай вышыні.

Розуму сэрца не слухала.
Можа, ахоплена скрухаю?
Не! Пра мінулае марыць,
Згадвае долю Ікара,
Ўласны акрылены лёс,
Згадвае неба свабоды —
Помную ўзнагароду, —
Свой над падзеннем узлёт.

*1999*



Ад сонца любові
Ціхмяна-сардэчнай
Вясёлкамі ззяе
Прастора сустрэчаў.

У моры любові
Патоне, растане
І ліха любое,
І смутак расстання…

*2005*

# З курорта…

Паўтараў адзін нябога
Думку, што прывёз з курорта:
«Слабы пол шукае бога,
Калі ўжо абрыдне чорту».

А пра моцны пол нябога
Думкі не прывёз з курорта:
Моцны пол не ў ролі бога
Там якраз, а ў ролі чорта.

# У тунэлі

Я пайшоў на прыемны дзявочы голас:
Толькі што праспявала дзяўчына
Пранікнёную «Зорку Венеру»
І «Купалінку» пачала.
Я падумаў: напэўна, студэнтка,
Пэўна, плаціць яна за вучобу…
Трэба талент хутчэй падтрымаць,
Заплаціць ёй за спевы,
За хвіліны найсветлай тугі.

Ды мяне абагнаў вярзіла,
Ён дубінкай узброены быў —
То, вядома, ахоўнік «парадку»,
Пры пагонах быў, з мордаю гладкай.
Ён, як буйвал, пагнаўся туды,
Дзе гучала пяшчотная песня, —
І дзяўчына падмазала пяткі.
А мне стала балюча і горка:
Нават і пад зямлёю
Ёсць душыцелі роднае песні!

# Альбомны верш

*І. К.*

Свеце ясны брунетка!
Вашы белыя кветкі,
Вашы ружачкі ў вазе цвітуць,
Віншавальныя ружы
Лашчаць вочы мне дужа:
Так цвітуць, бы на клумбе растуць.

## Краса і воля веснавая

Прайшоў працяглы сон прыроды,
Даўно забыты лёд і снег;
Ад ласкі сонца, ад пагоды
Прастор бязмежны паяснеў.
І травы буйныя, і росы,
І мора збажыны ў палях.
І дзьмухаўцовы зорны россып,
Бы на зямлю лёг Млечны Шлях.

Душу лагодзяць песні птахаў,
І напаўняецца яна
Паветрам, небам, ветру пахам.
Скрозь адчуваецца вясна.

У руху ўсё і ўсё ў абнове.
Наяве радасць, ды і ў снах.
Краса і воля ў гэтым слове,
У гэтай сутнасці: вясна.

*2007*

# Чэрвень

Сонцам краіна багата.
Доўгія цёплыя дні.
Водар акацыі, мяты,
Спеў жаўрука ў вышыні.

Хораша ў лузе і ў полі,
Цешыць нябёсаў святло,
Ажно здаецца: ніколі
Злых халадоў не было.

Летняга часу акраса —
Процьма суніц у лясах.
Ціха ўзнялася між красак
Мілых званочкаў краса.

Сонцам край родны сагрэты,
Пчолы гудуць і чмялі.
Запанавала ў нас лета,
Чэрвень ідзе па зямлі.

*2007*



Шлях далёкі ці блізкі —
Перспектывы адны:
Што далей ад калыскі,
То бліжэй да труны.

Ці мілее таму так
Неба роднага столь,
І глыбее мой смутак,
І вастрэе мой боль?

Мне вяртацца, вяртацца,
А не ў далеч ісці, —
І душою звяртацца
Да адзіных мясцін.

У вяснушках лістоты
Пацалую зямлю,
Старажытнае ўпотай
Прашапчу я
л ю б л ю.

# Сыну

Бываюць беды розныя ў жыцці,
Яны заўжды прыходзяць нечакана.
Мне не забыць: сарваўся ты з каштана
(Рэнтген пакажа трэшчыну ў касці)…
Пад дрэўцам тым сядзіш і плачаш ты,
Ляпечаш мне няскладнае там штосьці…
Да літасці ішоў я, ды ад злосці…
Я жорсткі быў. І каяўся я ў тым.

# Адкуль бяда

Пра недухоўнасць шмат гаворым,
Яна атруты шмат нясе.
Як памагчы хранічна хворым,
Каб акрыялі пакрысе?

Тупы скразняк ляціць-нясецца,
Пяском заносіць продкаў след.
Бескаранёвасць душ і сэрцаў
Не прынясла б нам болей бед!..

*1987*

# Прыпавесць

Адна краіна дажылася да разладу,
Дайшла да крызісу улада,
Мараль зайшла ў тупік,
А ў выніку такога заняпаду
Карону ўзяў сабе на рогі Бык.
Краіна, што князёў славутых мела,
Падобнае і сніць раней не смела.
Вучоныя панніклі і паэты:
Перад усім прыстойным светам
Такую ганьбу цяжка пераажыць —
Людзьмі кіруе Бык рагаты,
Непрадказальны і зацяты,
Каранаваны Бык —
Абсурду і маразму пік!
Паслы збянтэжыліся й дыпламаты,
Яны не знаюць, што рабіць…
Між тым імкліва час бяжыць.
Бык паўнатой улады упіваецца,
Святыні апаганіць ён спяшаецца —
Аж на харугвы узбіраецца,
І з герба рогі ўжо яго тырчаць.
Ён мовай чалавечай абураецца,
Людзям загадвае маўчаць,
Бык непаслушных забадаць гатовы!
І сталі многія бляяць, мычаць,
Забылі роднай мовы словы —
Мяняцца сталі ў іх

Уміг
І языкі, й галовы:
Скубуць ужо траву і не глядзяць на неба,
Травіца ёсць, а што яшчэ ім трэба?..
І Бык давольны: ім не трэба хлеба,
Ні мяса, ані малака…
Падбрэхічы пахвальваюць Быка:
Не Бык рагаты — проста цаца,
Эканамічны зрух намацаў,
Дарогу ўсім двухногім паказаў,
Рашуча ўсім бязрогім даказаў,
Што мову нездарма забараняў
І забарону ўсяк абараняў…
О, ганарыцца мог бы ён краінай,
Калі б увесь народ зрабіў скацінай!
Між тым упіцца ўладаю няцяжка —
Улада дзейнічае лепш, чым бражка, —
Бык перабраў і, недарэчна
Бадаючыся, рогі збіў,
З рагамі і карону ён згубіў,
Хоць думаў, што надзеў яе навечна.
І дзякуй Богу, што згубіў,
А то краіну б загубіў.
Краіне ж кожнай трэба жыць,
Ды і не так, як набяжыць…

*Красавік 1988*

# ІМГНЕННІ РОЗДУМАЎ

## Настрой

Шэры асфальт.
Шэрыя дамы.
Шэрае неба.
А ў небе майго настрою
Вясёлка грае.

## У сваёй стыхіі

Як птушка ў нябёсах,
Як рыбка ў вадзе,
Жыве музыкантка ў танцы.

## Паляўнічая

З неба стыхіі
Ў стыхію вады
Падае птушка
Жывою стралою…



Натуральна,
Дзе гарланіць крумкач,
Не пяе салавейка.

## Пад небам зорным

У рачулцы адбіліся зоркі,
І падумаў я раптам:
«Яе душа — вада».

## Непадуладнае

Каханне юнае? Бывае.
А старэчае? Ніколі!
Старасці непадуладнае
Каханне. Хаця яму
Ўсе ўзросты падуладныя
(Тут з Пушкіным я згодны)!



Часта
смерць — кара,
А часам —
ратунак…



Недалюбліваю клятву.
Не трываю здрады.



Адзіноту ўсім сэрцам люблю,
Хоць парою — яе не цярплю.



Дабро і зло — побач,
Часам мяняюцца месцамі,
Плаўна пераліваюцца
Адно ў другое.



Трансплантацыя твару…
Дасягненне прагрэсу? Рэгрэсу?
Бо што першаснае:
Твар ці душа?



Усе ведаюць: ёсць кантрасныя колеры,
Белы колер і чорны. Аднак
Бачаць многія белае ў чорным.
«Я так бачу», — з апломбам гавораць яны.



У час, як нашаю мовай
Чужыя гамоняць паслы,
Цураюцца роднага слова
Дзяржаўныя нашы …

## Наіўнае пытанне

Няўжо вам не баліць, панове,
Вярхі, дзяржаўныя мужы,
Што нашай, бы дзяржаўнай, мове
Няма як вольна дыхаць, жыць?!

Няўжо ніколечкі не сорам
Вам, хто вакол руля стаіць,
Мірыцца з найцяжэйшым горам,
Яго старацца затаіць?!

Так, гора нацыі цяжкое,
Бо дзе сустрэнецца яшчэ
Дзікунства страшнае такое,
Каб мова зводзілася ўшчэнт!

Ад цемрашальства сёння мода:
Каб мове дагадзіць чужой,
Глушыць сваю, не даць ёй ходу…
Як можна зашкурэць душой?!

А прыйдзе час — і кожнай здрадзе
Трэ' будзе ганьбу перажыць,
Усім, хто, будучы ва ўладзе,
Для мовы роднай стаў чужы.

*2000, 2009*

# Унуку-немаўляці

Віншую роднага Глеба
З днём нараджэння,
Глеба, што пакуль не есць хлеба,
Ані пячэння,
Не ведае, што ёсць на кухні мука,
Нічога-нічога не просіць, апроч малака…

Сёння табе месяц, мой Глеб!
Будзеш расці — і палюбіш хлеб,
Дадуць табе і да хлеба:
Ёсць у цябе мама, тата, Айчына,
Беларуская родная глеба…

Што з’явіўся на свет — малайчына!
Каб Глеб стаў глыбай — наша задача,
Будзем з табой лавіць не рыбу, а ўдачу.

*14.06.2010*

# Змест

## Замежжа маё паэтычнае

## Калі мы разам…

## Ніне Мацяш — у іншасвет



## У прасторы Бацькаўшчыны

## Вершы розных гадоў

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Жуковіч** Васіль Аляксеевіч

# Няўжо?..

*Кніга паэзіі*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *В. Аскерка*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *В. Аскерка*

Падпісана да друку 4.04.2011. Фармат 60х84 $^{1}/_{32}$
Друк афсетны. Папера афсетная.
Ул.-выд. арк. 3,85. Ум. друк. арк. 4,43.
Наклад 300 асобнікаў. Зак. 260.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0131712 ад 12.05.06.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
e-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Агрбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.